ЭСХІЛ

# Прыкуты Праметэй

*Пераклад Лявона БАРШЧЭЎСКАГА*



А с о б ы :

УЛАДА І СІЛА
ГЕФЭСТ
ПРАМЕТЭЙ
ХОР АКІЯНІД
АКІЯН
ІО, ІНАХАВА ДАЧКА
ГЕРМЕС

## ПРАЛОГ

Улада

Ну вось, ужо мы на краі зямлі,
У Скіфіі далёкай і пустэльнай.
І тут цяпер павінен ты, Гефэсце,
Загад бацькоўскі выканаць: да скалаў
Вось гэтага злачынцу прыкаваць
Жалезным, непарыўным ланцугом.
Украўшы кветку яркую тваю — агонь —
Людзям смяротным ён аддаў яго.
Багі за гэта і павінны пакараць
Яго, каб шанаваў Зевеса ўладу
І каб ахвяр смяротным не рабіў.

Гефэст

О Ўлада моцная! Ўжо ж выканана воля
Зевесава — і што вам да таго?
Ды як змагу я роднага мне бога
Да скал, на здзекі бураў, прыкаваць?
І ўсё-ткі я наважыцца павінен:
Не выканаць загад бацькоўскі — страшна!
Ты, сын харобры асцярожлівай Феміды,
Цябе я мушу, супраць нашай з табой волі,
Прыкуць жалезам да скалы самотнай;
Людзей ні чуць, ні бачыць ты не зможаш:
Павяне скура пад спякотным сонцам,
Табе на радасць ноч наметам зорным
Святло акрые; неўзабаве ж сонца
Ізноў асушыць росную дзянніцу;
Боль катавання будзе несупынны;
А збаўца твой яшчэ не нарадзіўся —
Вось плён тваёй любові да людзей.
Сам богам будучы, багам ты не патрафіў
І даў смяротным годнасці звыш меры;
Праз гэта будзеш пільнаваць скалу,
Стаяць вось так, без сну і без спачыну.

І ўздыхі, й крыкі будуць без карысці —
Зевес няўмольны і бязлітасны: заўжды
Караюць новыя багі сурова.

Улада

Чаго ж чакаеш, скардзішся дарэмна.
І зненавіджанага ўсімі бога,
Які агонь украў, не ненавідзіш?

Гефэст

Вялікая ў сваяцтва й дружбы моц.

Улада

Што ж, гэта праўда. Толькі ці ж бацькоўскі
Загад парушыць — не страшней нашмат?

Гефэст

Шмат дзёрзкасці бязлітаснай ты маеш.

Улада

Па ім табе няма чаго тут плакаць:
Дарэмна выйсця не шукай яму.

Гефэст

Як рамяство сваё я ненавіджу!

Улада

Навошта кажаш гэтак на яго?
Папраўдзе, не яно тут вінавата.

Гефэст

Няхай бы нехта іншы ім валодаў!

Улада

Усё ў руках багоў, але ж распараджацца
Сабой не могуць. Толькі Зеўс адзін свабодны.

Гефэст

Я гэта ведаю й спрачацца тут не буду.

Улада

Дык паспяшайся ланцугі накласці:
Бо ўгледзіць бацька наш, што ты марудзіш!

Гефэст

Вось кайданы гатовыя — на рукі.

Улада

Накладвай іх ужо: як наймацней
Бі молатам і да скалы прыкоўвай.

Гефэст

Прыкоўваю... усё раблю старанна.

Улада

Яшчэ мацней, каб дзе не адляцела:
Ён выкруціцца здольны ды ўцячы.

Гефэст

Прыкута гэтая рука надзейна.

Улада

Цяпер прыкуй другую — каб ён ведаў,
Што ён, хітрун, дурнейшы ўсё ж за Зеўса!

Гефэст

Папрок зрабіць мне можа Праметэй адзін...

Улада

Жалезны цвік, бязлітасны і гостры,
Цяпер у грудзі загані яму.

Гефэст

О Праметэй, мне ад пакут тваіх балюча!

Улада

Ты зноў марудзіш? І па ворагах
Зевесавых ты плачаш? Пашкадуеш!

Гефэст

Ты бачыш тое, што вачам нясцерпна...

Улада

Заслужанае пакаранне бачу я —
Мацней зацягвай ланцугі на сцёгнах!

Гефэст

Я ведаю, што я рабіць павінен —
Загады тут залішнія твае.

Улада

Мае загады, воклічы — якраз да месца:
Ніжэй спусціся, пад каленьмі папрыкоўвай!

Гефэст

Ну, я зрабіў усё без доўгай цяганіны.

Улада

Там, каля пятак, кайданы ўмацуй:
Тваю суддзя суровы спраўдзіць працу.

Гефэст

Твой голас гэткі самы, як твой выгляд!

Улада

Будзь больш лагодны, бо табе ж вядома,
Што мне наканаваная няўмольнасць!

Гефэст

Прыкуты добра ён — хадзем адсюль.

Улада

Будзь поўны пыхі зараз, выкрадай
Багам належнае і аддавай смяротным!
Хто з іх ратунак дасць табе — паглядзім.
Не, Праметэй[1] — імя не для цябе:
Празорлівы — не ты; але якраз такога
Табе бракуе, каб адолець гора.

Праметэй

О ты, Эфір, пасланы богам; вы,
О хуткакрылыя вятры ды рэкі,
Ды хваляў смех нязлічаных марскіх,
Ды маці існага — Зямля, ды сонца кола
Відушчае, я ў сведкі клічу вас:
Зірніце, ад багоў што церпіць бог!
Паглядзіце, у якіх
Мушу я пакутах праводзіць жыццё
Безліч доўгіх гадоў!
Ганебныя мне начапіў кайданы
Новы цар шанаваных, слынных багоў.
Бяда! І я плачу аб гэтай бядзе
І аб будучых бедах — ды дзе, дзе ж мяжа
Пакут маіх гэтых бясконцых?
Ды што я тут кажу? Бо я ж і сам
Прадбачыў будучыню гэтую, й няма
Нічога нечаканага тут, зрэшты.
Я мушу лёгка гэта ўсё стрываць,
Бо неабходнасці не пераможаш.
Ды цяжка і маўчаць, і гаварыць
Пра долю пра сваю. Бо я ж, няшчасны,
Пакутую за тое, што смяротным
Зрабіў дабро, агонь украў ім боскі,
Схаваўшы ў чарацінцы, і людзям
Павадыром зрабіўся ён. Ва ўсіх

Мастацтвах — дапамогай неацэннай...
За гэтае злачынства кара мне,
І вось — вішу я ў кайданах пад небам...
О!.. О!.. О!
О што за гукі! Што за водар гэта
Дзівосны? Ці то бог, ці то герой,
Ці то смяротны да скалы далёкай
Прыйшоў, каб сведкам быць пакут маіх?
Вы на прыкутага зірніце бога,
На якога нянавісць Зевес скіраваў —
З усімі багамі, што ў доме яго —
За такую маю любоў да людзей.
Ах, што там за шум недзе зблізку чуцён
Ад тых птушак імклівых! Эфір загудзеў
Пад ударамі крыл, што лунаюць. Мяне
Палохае ўсё, што дзеецца тут...

## ПАРАД

З боку мора ў крылатай калясніцы з'яўляецца хор Акіянід

Хор

*Страфа першая*
Не бойся, бо гэта сябры твае прыляцелі
На крылах імклівых, шпаркіх.
Мальбу дачок наш бацька пачуўшы,
Нам ляцець сюды дазволіў —
І вятры нас так хутка прынеслі.
Грукат молата ў глыб марскіх пячор данёсся;
І мы, адкінуўшы сорам,
Ледзьве не голыя зусім,
У калясніцы памчаліся сюды.

Праметэй

Бяда! Бяда!
Дзеці плоднай Тэфіды[2], якую яна
Нарадзіла калісьці Акіяну, што
Амывае зямлю ўсю патокамі водаў!
Паглядзіце, якія на мне ланцугі.
Як да скал я прыкуты,
Якую няспынна нясу я
Незайздросную службу!

Хор

*Антыстрафа першая*

О Праметэй, мы ўсё добра бачым:
Кінуўся нам змрок у вочы,
Іх слязьмі напоўніў раптам!..
Бачым, як гібееш ты на скале
І даходзіш, прыкаваны
Ганьбай ланцугоў праклятых!..
Пры стырне тым на Алімпе
Новыя стаяць уладцы...
І па-новаму ўсімі багамі
Ўжо кіруе Зеўс адзін...
Каго ён баяўся — ўсіх нішчыць.

Праметэй

Няхай бы мяне пад зямлю, ў Аід,
Схаваў ён, хай кінуў бы ў Тартар глухі,
Няхай бы ў астрог ён кінуў мяне,
Дзе морак над мерцвякамі!
Нікога тады, ні багоў, ні людзей,
Усцешыць няшчасце маё не змагло б.
Бо я ж тут прыкуты, каб мною вятры
Гуляліся й вораг цешыўся.

Хор

*Страфа другая*

Каму так хочацца з багоў
Уцехі ад тваёй бяды,
І хто не падзяляе з іх
Тваіх пакут, апроч Зевеса аднаго?
Дзікі і ўпарты, ён дзяцей
Злосна Уранавых[3] душыць;
Ён прыціхне толькі калі даніну
Жорстакасці аддасць ці калі нехта скіне яго.

Праметэй

Я сёння пакуты цярплю ў кайданах,
Ды час праміне, і галоўны з багоў
Папросіць мяне, каб выкраў яму
Я новую змову, што трон адбярэ
Ў яго і дзяржаву навечна.
Ды будзе дарма ён мяне спакушаць
Сваім красамоўствам; пагрозы яго
Любыя дарэмнымі будуць, бо я
Не выдам таемнае справы, пакуль

Вось гэтыя цiснуць мяне кайданы,
Пакуль за ганебны мой гэты палон
Ён не заплацiць!

Х о р

*А н т ы с т р а ф а   д р у г а я*
Усё ранейшая ўпартасць тваяl
Скарыцца не хочацца табе.
Цяжкай нядоляй прыгнутаму!
Язык не хочаш прытрымаць хоць трохi;
Жах нам сэрцы працiнае —
Жах за цябе, зразумей нас.
Вусцiшна робiцца нам, бо не бачым
канца тваiх пакут!
Непахiснае сэрца мае ён, Кронам народжаны.

П р а м е т э й

Я ведаю, што суровы ён,
Што лiчыць законам толькi слова сваё;
Ды час надыдзе — i ён палагоднее вельмi,
Суцiшыцца злосць:
Сам ён тады заспяшаецца насустрач мне —
Свайму паплечнiку-сябру.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Х о р

Ты шчыра, не хаваючы, ўсё раскажы,
У чым ты Зеўсам выкрыты, й за што
Цябе карае ганьбай, болем ён?
Скажы — калi табе не цяжка гаварыць.

П р а м е т э й

Вядома, гаварыць балюча мне,
Дый не лягчэй — маўчаць. А што тут зробiш?
Калi род бессмяротных запалiўся злосцю
I ўжо мiж iмi пачынаўся бунт;
Калi адны хацелi скiнуць Крона[4],
Каб валадарыў Зеўс, а iншыя,
Наадварот, iмкнулiся да ўлады
Яго не дапусцiць — я ў гэты час
Даваў сынам Зямлi й Нябёс, тытанам,
Патрэбныя парады, а не змог
Пераканаць iх. Поўныя адвагi,

Яны без хітрасцей запанаваць
Хацелі сілаю адной сваёю.
А мне ж прадказвала не раз матуля,
Зямля-Феміда[5] (шмат імёнаў ёсць
У мацеры-багіні), *што* ў канцы
Змагання будзе, *што* зусім не сіла,
А толькі хітрасць пераможа ў барацьбе.
Калі ж засцерагаў я іх, яны
Ў мой бок і не глядзелі нават.
Таму я вырашыў, што лепш за ўсё
Мне маці падтрымаць і за Зевеса
Пайсці ў той барацьбе, што пачалася.
Маім парадам дзякуючы, Тартар
Прадбачліва схаваў старога Крона
З паплечнікамі ў чорнай апраметнай.
І цар багоў за гэты мой учынак
Адпомсціў мне суровым пакараннем.
Тыраны ўсе хварэюць на хваробу —
Злачынна кожнаму ні ў чым не давяраць.
А на пытанне вашае, у чым прычына
Пакут маіх, я адкажу вам ясна.
Як толькі бацькавым ён тронам заўладаў,
Пачаў адразу ўладу размяркоўваць
Ды пашаноты ўсякія сярод тых новых
Багоў. А пра гаротны просты люд
Зусім забыўся; больш таго, надумаў
Род чалавечы звесці ўшчэнт і новы
Панасаджаць. І тут не заступіўся
Ніхто за люд смяротны: толькі я адзін
Наважыўся ды вызваліў людзей
Ад іхняй долі — згінуць з ласкі Зеўса,
Сысці ў Аід. За гэта і цярплю
Пакуты гэткія, што страшна бачыць,
А іх стрываць нашмат яшчэ цяжэй.
Пашкадаваўшы так смяротных, я
Спагады не спазнаў. Вось так сурова
Расправу учыніў мне цар багоў...
Мае пакуты Зеўса толькі ганьбяць!

Х о р

Той мае сэрца цвёрдае і з каменя
Ён сам — калі пакут тваіх не падзяляе.
О Праметэй! Каб іх зусім не бачыць!
А так — сціскаецца ад болю сэрца.

Праметэй
Вядома, ўсе сябры мне спачуваюць.

Хор
Ці не зрабіў ты больш, чым расказаў нам?

Праметэй
Я навучыў людзей сваёй не прагнуць смерці.

Хор
Якія лекі даў ты ім на безнадзейнасць?

Праметэй
Я пасяліў надзею ў іх сляпую.

Хор
Ты даў людзям сапраўдную каштоўнасць!

Праметэй
Яшчэ святы агонь ім падарыў.

Хор
Смяротныя ўжо маюць гэты скарб?

Праметэй
Але. Сяму-таму ён іх навучыць.

Хор
Дык значыць, Зеўс за тое чыніць здзек
З цябе, і жорсткасць гэта не слабее.
А ты канца сваіх пакут не бачыш?

Праметэй
Не. Толькі калі ён таго захоча.

Хор
Захоча? Спадзяешся ты? Не адчуваеш
Сваёй памылкі? Ды табе яе тлумачыць
Мне цяжка, а табе — балюча слухаць.
Пакінем гэта. Пашукай ратунку лепей!

Праметэй
Таму, хто не спазнаў пакут вось гэткіх,
Даваць парады й угаворваць лёгка!
Але ж пра ўсё я ведаў, і свядома
Зрабіў памылку, саграшыў: я прызнаюся!
Людзям дапамагаючы, сябе я нішчыў.
Вядома, не ўяўляў я, што аднойчы

Даходзіць буду, да скалы ў пустэльні
Далёкай і бязлюднай прыкаваны.
Ды вы не плачце аб маіх пакутах;
А лепш сыдзіце ўніз, каб там пачуць
Пра лёс, які наканаваны мне —
Вы ўсё спазнаеце там да канца.
Не адмаўляйцеся — і мне паспачувайце!
На жаль, бяда вакол усіх кружляе
І пагражае кожнаму на свеце.

Х о р

З ахвотай мы покліч успрымем твой,
О Праметэй! І лёгенька-порстка
Злядзім з калясніцы хуткакрылай;
Паветра пакінем святое, дзе птушкі
Лунаюць; на камяністую глебу
Мы сыдзем, каб твой аповяд пачуць
Пра ўсе няшчасці твае.

З'яўляецца Акіян на скрыдлатым кані.

А к і я н

Я прыйшоў — і за мной доўгі шлях —
К табе, Праметэй,
Прыйшоў сюды сам, без прынукі зусім,
Кіруючы птушкай крылатай сваёй...
І ведай, што я спачуваю бядзе
Тваёй, дый сваяцтва змушае мяне[6]...
Ну і, апроч таго,
Сваякоў я не маю, якіх бы я мог
Шанаваць, як цябе.
Што гэта ўсё праўда, ты ўведаеш сам.
І спазнаеш ты, што гэта ўсё — праўда,
Я хлусні не магу цярпець. Ты мне скажы:
Як магу я табе памагчы? Бо Акіян
Застанецца табе шчырым сябрам заўжды!

П р а м е т э й

Ды што такое? Вось і ты прыходзіш,
Каб сведкам быць пакут маіх! Ды як
Паток наважыўся пакінуць ты,
Які названы тваім імем, ды пячоры,
Схаваныя між скал — каб на зямлю
Жалезародную прыйсці? Ты хочаш
Паспачуваць маёй гаротнай долі?

Ну што ж, глядзі ды спачувай таму,
Як Зеўсавага сябра, што яму здабыць
Уладу дапамог, цяпер катуе
Бязлітасна і жорстка слаўны Зеўс.

Акіян
Мне, Праметэй, відно ўсё. Я параіць
Хачу табе найлепшага — хоць ты і сам
Разумны: лепш сябе спазнай ды іншым
Зрабіся! Бо сярод багоў цяпер
Кіруе новы бог. Хоць ён высока ў небе —
Ды калі ўчуе дзёрзкія твае прамовы,
Забавай боль цяперашні падасца
Табе! Няшчасны, ты на злосць забудзься:
Падумай лепш, як дараванне заслужыць!
Магчыма, і дурной табе здаецца
Мая парада, толькі, Праметэй,
Ты ж бачыш, што выходзіць з тых размоваў
Нястрыманых. Скарыцца ты не можаш
І хочаш больш пакут да тых, што маеш.
Паслухайся маёй парады і не лезь
Упарта ў бойку. Бо ты ж бачыш сам:
Уладу мае жорсткі ды няўмольны цар.
А я пайду. І паспрабую, як змагу,
Цябе ад страшных выбавіць пакут.
Ты ж — лепш маўчы, не гавары залішне:
Хіба ж не ведаеш — такі мудрэц —
Што б'юць усіх, хто шмат вядзе размоў?

Праметэй
Ты выйшаў лёгка з гэтае бяды —
Зайздрошчу — хоць і ты ў тым браў удзел.
Ды супакойся ўжо, турботы кінь свае:
Яго не ўмоліш ты. Да просьбаў ён глухі —
Глядзі, самому каб не трапіць у бяду.

Акіян
Ты іншым лепшыя парады, чым сабе,
Даеш. Пра тое твае ўчынкі сведчаць.
Але ж мяне не стрымлівай: я веру,
Што будзе літасцівы Зеўс і ўсё ж
Твае пакуты доўжыцца не будуць.

Праметэй
Табе за гэта дзякуй. І заўжды
За намаганні буду ўдзячны я табе.

 

А толькі з намаганняў я тваіх
Карысці не чакаю — хоць
На гэта сілы ўсе ты й аддасі.
Лепш супакойся — і спакойна адыдзі.
Напраўду, цяжка мне. Але праз гэта
Рабіць бяды ўсё ж іншым не хачу.
Мяне і так нясцерпна мучыць лёс
Атланта-брата, што трымае слуп
Зямлі й нябёс — агромністы цяжар.
І калі бачу я дзіця зямлі таксама,
Што там жыло ў пячорах кілікійскіх —
Пачвару стогаловую, Тыфона —
Як быў ён пераможаны, я спачуваю!
Супроць багоў паўстаў ён: з сотні пашчаў
Шыпенне чулася і свіст жахлівы,
Быў у вачах агонь Гаргоны[7] страшны.
Ды Зеўсава няўмольная страла —
Маланка вострая — яго дагнала
І ў сэрца трапіла дакладна — і тады
Была ў ім знішчана ўся ўпартасць, сіла.
Цяпер, нямоглы ўжо, ляжыць Тыфон,
Прыціснуты падножжам Этны[8], і Гефэст
Куе жалеза на грудзях ягоных,
Непадалёк ад вузкае пратокі.
Адтуль раз-пораз вогненныя рэкі
Раптоўна вырываюцца — і затапляюць
Прыгожыя і плодныя абшары
Сіцыліі — і анікому не схавацца
Ад лютасці Тыфонавай, хоць ён калісьці
Быў знішчаны Зевесавай стралою.
Ды ты дасведчаны ў жыцці. Няма патрэбы
Цябе вучыць мне. І пра свой ратунак
Ты патурбуйся так, як разумееш.
Я ж буду да канца трываць, пакуль Зевес
Злосць не адолее сваю ды ўпартасць.

А к і я н

Ці ж ты не ведаеш, о Праметэй, што злосць
Вылечваецца словамі найлепей?

П р а м е т э й

Вядома ж — калі сэрца памякчэе,
Ды не гамуецца праз сілу гнеў.

Акіян

Ды ў чым жа рызыка, мне адкажы,
Як спрабаваць утаймаваць яго?..

Праметэй

То марнаванне часу і бяздумнасць!

Акіян

Дай на хваробу тую захварэць мне;
Разумнаму мець славу дурня — добра!

Праметэй

Тваю памылку за маю палічаць.

Акіян

Дык значыць, мне ў палац вяртацца трэба?

Праметэй

Тым спачуваннем ворага набудзеш...

Акіян

Каго? Таго, хто ў небе валадарыць?

Праметэй

Яго ўзлаваць асцерагайся ўсё-ткі!

Акіян

Твая бяда напраўду мне навука.

Праметэй

Яго не забывай ды паспяшайся!

Акіян

Я адлятаю ўжо: не трэба падганяць.
Там у эфіры мне паказвае дарогу
Лятун чатырохногі мой: ён рады
У родным стойле адпачыць нарэшце.

Акіян адлятае.

## СТАСІМ ПЕРШЫ

Хор

*Страфа першая*

Мы аб тваёй цяжкай долі плачам, Праметэй,
Бягуць з нашых вачэй слёзы ручаямі,
Сцякаюць з нашых бледных шчок —

Ад іх — вільготныя сляды.
Уладу цяпер мае Зеўс,
І жорстка ён уладарыць:
Шанаваным колісь багам
Дзідай пагражае ён.

*Антыстрафа першая*

Стогны паўсюды навокал чутны — так плачуць
Па тваёй колішняй былой славе
І па братах, моцных калісь.
Усе народы, што жывуць,
Маюць котлішча сваё
На землях Азіі святой,
Спачуваюць лёсу твайму;
Твой боль — таксама іх боль.

*Страфа другая*

І плачуць дочкі Калхіды ўсе,
Якім і ў бітвах не боязна;
Плямёны скіфскія на краі
Зямлі далёкім, абапал
Вод Міятыйскіх[9], таксама плачуць.

*Антыстрафа другая*

І Арыі[10] люд ваяўнічы,
З каўказскіх схілаў люд,
Што з крыкам на бітвы ідзе,
Дзіды маючы вострыя —
Плача таксама ён.

*Страфа трэцяя*

Бачылі мы ў гэткім няшчасці толькі
Аднойчы іншага бога,
Атланта: як гэты Тытан падставіў
Спіну сваю пад цяжар невыносны — скляпенне
Неба, й трымае так яго; вось лёс, варты спачування!

*Антыстрафа трэцяя*

Марскія хвалі шумяць і скавычуць; чорныя
Нетры ўсе Аідавы, і стогнуць патокі рэк
Пра гэта, праравaўшыся з безлічы светлых
Крыніц.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Праметэй

Няма зусім ніякай пахвальбы
У маім маўчанні. Так балюча мне,
Як прыніжэнне бачу я сваё.
Бо гэта ж я, не іншы хто, багам
Цяперашнім пашану, ўладу даў!
Пра гэта, зрэшты, не хачу казаць —
Усё вядома вам і так. Вы лепш
Паслухайце, што за бяда ў людзей.
Наважыўся я кемлівасць у іх
І розум абудзіць: пра гэта не таму
Кажу я, каб ім неяк дапячы —
А каб вы ўцямілі, што добры я да іх.
Ды, вочы маючы, не бачылі яны,
Ды, вушы маючы, не чулі, і
Да ценяў сноў падобныя былі,
Не цямячы нічога ўсё жыццё
Яны дамоў з камення, поўных сонца,
Не будавалі й не маглі цяслярыць.
А ў сутарэннях, нібы мурашы,
Жылі, зусім без дзённага святла.
Не ведалі прыкмет, калі зіма
Або вясна надыдзе, з кветкамі,
Або, з пладамі, лета — ў іх
Пра гэта не было ўяўлення, аж
Пакуль пра зоркі, руху сонца сэнс
Я ім не расказаў; пакуль яшчэ
Навуку лічбаў — самую галоўную —
Я не прыдумаў для людзей; пакуль
Як літары складаюцца ў склады —
Мастацтву гэтаму, падмурку памяці —
Я іх не навучыў. Быў першы я,
Хто да ярма скаціну прывучыў,
Да хамута і да сядла — жывёлаў,
Каб у цяжкой рабоце чалавеку
Крыху дапамагчы. Пазапрагаў
Я коней паслухмяных у вазы —
Багацця прыгажосць ды бляск. То я ж
І ветразі льняныя ўсталяваў
На караблях — іх выправіў у моры.—

Вось колькі я, гаротны, для людзей
Усякага прыдумаў. Каб цяпер
Прыдумаць як ратунак ад пакут.

Хор

Пад катаваннямі ганебнымі ўжо дух
Твой аслабеў — так кепскі лекар,
захварэўшы сам,
Слабее. Сіл не маеш лекаў ты знайсці,
Якія б для цябе гаючымі былі.

Праметэй

Паслухай да канца і ацаніць ты здолееш,
Якім умельствам я смяротных навучыў.
Галоўнае і, пэўна найважнейшае:
Даўней ратунку ад хваробаў не было —
Ні зёлак, ні пітва, ні мазяў, ні прыпарак;
Без лекаў проста паміралі людзі,
Пакуль я сумесяў ім розных не нараіў —
Каб боль паслабіць. Шмат ім усялякіх
Гаданняў, варажбы, прыкметаў падказаў.
І сны, якія спраўдзяцца,
Якія не — іх вызначыў таксама я.
Я растлумачыў сэнс прыкмет, якія
Патрэбна ведаць, як збіраешся ў дарогу.
Палёты птахаў з кіпцямі дакладна
Я вызначыў: калі дабра чакаць
Ад іх, калі ж — няшчасця, як яны
Жывуць; як варагуюць між сабой,
Як чарадой лятаюць, як кахаюцца
І што за колер маюць, што за гладкасць.
Усім людзям я растлумачыў знакі
Агню, што ім былі незразумелыя.
А хто наважыцца сказаць яшчэ,
Што за мяне раней людзям адкрыў,
Якія ў нетрах дзе багацці ёсць:
Жалеза, срэбра, золата ды медзь?..—
Ніхто не скажа, калі ён не выхваляка!
Багацце ў нетрах — золата і срэбра,
Жалеза, медзь — хто скажа, што пра іх
Хтось ведаў да мяне? Хіба што нейкі хлус.
Таму адна ёсць праўда на зямлі:
Усе умельствы — Праметэеў дар.

Хор

Ты надта пра людзей цяпер не дбай —
Падумай лепей пра бяду сваю.
Мы верым: дзень надыдзе і палон
Твой скончыцца, і будзеш моцны ты, як Зеўс.

Праметэй

Не вызначаны час яшчэ на гэта
Ўсямоцным лёсам. Вытрываць я мушу
Пакут і болю досыць, перш чым прыйдзе воля.
Стаіць нашмат вышэй за розум неабходнасць.

Хор

Хто ж вызначае меру неабходнасці?

Праметэй

Тры Мойры[11] ды Эрыніі[12], што анічога
Не забываюць.

Хор

Ці ж за іх слабейшы Зеўс?

Праметэй

Ад лёсу ад свайго ён не ўцячэ.

Хор

Ці ж то не лёс яго — ўладарыць вечна?

Праметэй

Больш не настойвай і пра гэта не пытайся.

Хор

Дык гэта нешта страшнае — што ты хаваеш?

Праметэй

Не будзем гаварыць пра гэта: не наспела
Яшчэ пара. Мне трэба таямніцу
Захоўваць пільна, бо ад гэтага залежыць
Ратунак мой ад кайданоў і ад пакут.

## СТАСІМ ДРУГІ

Хор

*Страфа першая*
Хай нас не ціснe ўладай
Зеўс, што над светам валадарыць усім:

Мы не стомімся ніколі на свеце дарамі
Багоў ушаноўваць — мяса цяляці класці,
Дзе бацькі Акіяна паток шуміць няспынна, вечна.
І абяцанняў назад мы не возьмем,
І не будзем пустога казаць;
Ды ў сэрцах нашых сціпла хай мудрасць укараніцца.

*Антыстрафа першая*

На гэта старая мудрасць кажа:
Жыццё тваё існуе, каб ведаць радасць
Ды поўніць сэрца — бо вечна ты жывеш —
Светлымі ўцехамі, надзеямі добрымі.
Ды кроў халадзее ў нас, бо ж бачым мы, як
Тысяча боляў істоту тваю працінае.
Зеўса не баючыся,
Ты ўпарта выказваеш, Праметэй, павагі
Больш да людзей, чым трэба.

*Страфа другая*

Што ўзяць з людзей? — Зірні:
Ці могуць яны за тваю аддзячыць любоў,
Хіба ж паратунак табе прынясуць?
Ці ж ты не бачыў бясплённых,
Дарэмных высілкаў, пустых памкненняў
Гэтай санлівай пароды?
Ніколі не здолеюць іх задумы
Парушыць наканаванае Зеўсам.

*Антыстрафа другая*

Гэтае зведалі нашы сэрцы,
Цябе й пакуты бачачы твае, Праметэй.
Ах! Ды не тую песню спявалі мы,
У шлюбным пакоі ды ва ўмывальні нявесты,
Калі ты нашу сястру Гесіёну
Узяў сабе за багаты пасаг,
Жонкай зрабіў, прывёўшы з пячор Акіянавых.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Прыбягае Іо, ператвораная Герай у карову.

І о

Чыя тут краіна? Хто перада мной
Вісіць? Хто яго прыкаваў да скалы —
Ўсім бурам на здек?
За якую правіннасць ты гінуць мусіш?
І скажы мне, куды гэта
Занесла, няшчасную, мяне?
Ліха, ой ліха!
Зноў авадзень уцяўся ў мяне
Ах! Ах!
Бачу я: Аргас[13] там, сын нетраў.
Зноў ён, пастух тысячавокі —
З позіркам хлуса — крадзецца за мною.
Смерць яго не схавала нават
У апраметнай — ён з царства мёртвых
Выйшаў і без супыну мяне
Пераследуе; мяне, галодную
І няшчасную. Мчыць па ўзбярэжжы ён,
Топча пясок.

*Страфа*

Жалейка, злепленая з воску,
Спявае песню, уздыхае.
Ах, што за гора! што за гора!
Куды мяне вядзе дарога?
Дзіцятка Кронава, ты мяне ў чым
Выкрыць магло? За што кару ты
Паслала мне?
Аваднём джаляць страх і вар'яцтва.
Агнём спалі, зямлёю
Засып мяне, зрабі для гадаў марскіх пакормам!
Модлы мае пачуй,
Слаўны ўладару!
Досыць вандроўніца павандравала;
Дзе і канец, невядома,
Гэтых пакутаў цяжкіх
Ці дзяўчыну гаротную ты чуеш?

П р а м е т э й

Як жа магу не пачуць я голасу
Гэтай дзяўчыны, дачкі Інаха[14],

За якой авадзень гоніцца й якая,
Зеўсу каханнем душу спапяліўшы,
Па свеце з волі Геры злой туляецца?

**І о**

*Антыстрафа*

Хто сказаў табе імя майго бацькі?
Хто ты ёсць — адкажы, злітуйся з мяне.
Хто табе, гаротны, пра гора Іо
Расказаў усё, як ёсць?
Ты назваў хваробу, што бог мне паслаў —
З месца на месца лячу я,
Мучыць гэтае джала мяне.
Ах, як сюды я ляцела!
Голадам змораная,
Гера гнала мяне з помслівай злосцю.
Хто гаротнік той, чый боль
Параўнацца можа з маім?
Ты мне выразна скажы, якія
Будуць пакуты мне наканаваны,
Як мне хваробу перамагчы —
Ведаеш — дык скажы. Я малю цябе:
Дай адказ дзяўчыне беднай.

**Праметэй**

Усё, што ўведаць хочаш, раскажу табе,
На ўсё адказ я шчыры й просты дам,
Як гэта між сябрамі толькі робіцца.
Я — Праметэй, што даў агонь людзям.

**І о**

О дабрадзей смяротных, бог бяздольны,
За што ж пакутуеш ты, Праметэй?

**Праметэй**

Я толькі што бяду сваю адплакаў.

**І о**

І мне даведацца пра гэтае не суджана...

**Праметэй**

Я раскажу пра ўсё, што ведаць хочаш.

**І о**

Хто прыкаваў цябе да гэтае скалы?

П р а м е т э й

Зевеса воля, а Гефэстава рука...

І о

А ў чым твая віна? За што пакутуеш?

П р а м е т э й

Сказаў табе і так зашмат я. Досыць.

І о

Ты раскажы, гаротнай, мне, калі
Бадзянні ды пакуты мае скончацца.

П р а м е т э й

Табе не ведаць лепш аб тым, чым ведаць.

І о

Пакут, што буду я цярпець, ты не хавай.

П р а м е т э й

Калі жадаеш, я зраблю такую ласку.

І о

Ну, дык чаму ж марудзіш і не кажаш?

П р а м е т э й

Не, проста сэрца кроіць не хачу тваё.

І о

Ды на мяне ты не зважай больш, чым прашу я...

П р а м е т э й

Калі так хочаш, раскажу я. Слухай.

Х о р

Яшчэ не трэба! Дай і нам узяць удзел...
Спачатку хай яна раскажа пра пакуты,
Што выцерпела ўжо, ды пра сваю нядолю.
А пра далейшыя пасля раскажаш ты.

П р а м е т э й

Іо, ты з імі добрай быць павінна,
Бо гэта ж сёстры бацькі роднага твайго;
Апроч таго, расказваць пра свае няшчасці
Заўсёды лепш, калі ў вачах у слухачоў —
Спагады шчырае і суцяшэння слёзы.

І о

Не ведаю, як я магла [redacted] адмовіць...
Вядома ж, вы пра ўсё павінны ведаць;
Хоць і нялёгка мне пра тое гаварыць,
Як навальніца божая мяне, няшчасную,
Дагнала — і ўсю знішчыла маю красу!
Так сніла я ў сваёй дзявочай спальні
Штоночы, як мне прывіды шапталі
Лісліва: «О, шчаслівае дзіця!
Чаму цнатлівасць ты захоўваеш так доўга,
Калі табе наканаваны найвышэйшы шлюб?
Бо Зеўс, стралой любоўнаю працяты,
З табой спажыць дароў Цытрэі[15] хоча.
Не будзь упартаю, сыдзі ў даліну Лерны[16],
Да пашаў бацькавых і Зеўсаў позірк палкі
Сваім каханнем шчырым наталі!»
Пакуты мела я ад гэткіх сноў,
Пакуль не расказала бацьку ўсё пра іх.
І шмат ганцоў паслаў ён у Піфо,
Ў Дадону — каб даведацца, як можна —
Малітваю ці словам — дагадзіць багам.
Але загадкавыя звеставанні
Прыносілі ганцы, і ўсё занадта цёмна
Было ўвесь час... Нарэшце да Інаха
Прыйшоў адказ выразны: ён павінен
Мяне прагнаць і з дому, і з радзімы,
Каб я адна блукала па ўсім свеце —
Інакш адразу ж бліскавіцай з неба
Ударыць Зеўс і ўвесь наш знішчыць род!
Так, як сказаў аракул Апалонаў,
Зрабіў мой бацька — з дому выправіў мяне,
Насуперак сваёй ахвоце і маёй,
Паддаўшыся Зевесавай уладзе.
Адразу ж розум мой, маё аблічча
Змяніліся: тут рогі выраслі,
Сляпень за мною з вострым джалам учапіўся,
Я паімчалася шалёнымі скачкамі
Да тых гаючых струмянёў керхнэйскіх[17]
І да Лернэйскае крыніцы. Аргас,
Бязлітасны пастух, дзіця зямное,
За мной паўсюды йшоў і ўсё сачыў
Шматлікімі вачмі сваімі. Ды раптоўна

Скон напаткаў яго, а я па свеце,
Багамі гнаная, скусаная сляпнём,
Блукаю з краю ў край... Цяпер вядомая
Табе гісторыя мая. Ты можаш расказаць
Пра новыя пакуты, што мяне чакаюць.
Кажы ды, спачуваючы, не хлусь!
Няма заганы горшай за хлусню.

## ФРЭНАС

Х о р

Досыць! Досыць! Спыніся! Ах!
Мы не думалі ніколі, ніколі,
Што апавяданне дзіўнае тваё
Так наш слых уразіць; што нясцерпным
Невыносным болем — лязом двухвострым —
Сэрца ганьба твая пратне нам!
О наканаванне! Наканаванне!
Лёс, Іо, твой бачыць так цяжка нам!

П р а м е т э й

Занадта рана жахаешся ты і плачаш:
Даведайся і пра астатняе, пачакай.

Х о р

Дык гавары! Бо хвораму суцяшэнне —
Пра боль свой будучы даведацца.

П р а м е т э й

Вы лёгка атрымалі ад мяне, што напачатку
Хацелі: расказала вам яна сама
Журботнае апавяданне пра пакуты.
Цяпер, дазвольце, я вам раскажу,
Што за няшчасці гэтую дзяўчыну
Чакаюць, Гераю падрыхтаваныя.
Дзіця Інахава, трымай у сэрцы словы
Мае — каб ведаць, дзе канец тваіх блуканняў.
Адсюль назааранымі палямі
На ўсход ты пойдзеш і нарэшце прыйдзеш
Да скіфаў тых вандроўных, з лукамі,
Чыё жытло — ў хацінах трысняговых,
Усталяваных проста на калёсах.

Да іх занадта блізка ты не падыходзь,
Але трымайся берага марскога; леваруч
Там застанецца край халібаў-кавалёў;
Яны — народ суровы, негасцінны...
Іх лепш асцерагацца. Да ракі ты прыйдзеш,
Што Крыўдаю завецца справядліва:
Няма ў ёй броду, й ты яе не пераходзь.
Тады ты выйдзеш да Каўказа — да гары,
За ўсё вышэйшай, дзе з вяршыні самай
Зрываецца паток уніз. Пяройдзеш ты
Хрыбты, што з зоркамі суседзяць,
І накіруешся на поўдзень: амазонак —
Мужчынам варагіняў — там спаткаеш,
Што пасяліліся калісьці ў Тэміскіры
На Тэрмадоне[18], дзе пагрозна Сальмідэс
Бяздоннай пашчай караблі пужае;
Яны табе з ахвотай шлях пакажуць!
Да Істма Кімерыйскага ты дойдзеш,
Да вузкае пратокі Міятыды.
Навечна застанецца ў памяці
Людской, як ты пераплывеш пратоку —
І тое месца назавуць Баспорам,
У гонар твой. Вось гэтак ты пакінеш
Еўропу й прыйдзеш на Азійскую зямлю.
Ці не здаецца вам, што цар багоў
Аднолькава да ўсіх бязлітасны і жорсткі?
Бо ён, з дзяўчынай шлюбу захацеўшы,
Яе да гэтакіх блуканняў змусіў!
Дзіця, ты маеш жаніха нядобрага.
Ды ўсё, што чула ты цяпер — адно
Пачатак будучых тваіх выпрабаванняў!

І о

О гора, гора мне!

Праметэй

Ты зноўку скардзішся і плачаш. Толькі што ж
Ты скажаш, пра астатняе пачуўшы?

Хор

Што, будуць новыя яшчэ пакуты?

Праметэй

Няшчасцяў, гора акіян бязмежны!

І о

Навошта жыць мне? Ці не лепей са скалы
Высокай кінуцца, каб тут жа ўміг
Пазбыцца бед усіх? Бо набагата лепш
Памерці адзін раз, чым мучыцца штодня.

П р а м е т э й

Маіх пакут стрываць ты б не змагла!
Бо мне ж памерці не наканавана:
Каб смерць была збаўленнем ад пакут
Цяпер жа я не бачу іх канца —
Датуль, пакуль ва ўладзе будзе Зеўс.

І о

Ці ж можа ўладу калі-небудзь страціць ён?

П р а м е т э й

Табе, напэўна, тое ўцехай добраю было б?

І о

Ну й дзіва што: ад Зеўса ўсе няшчасці!

П р а м е т э й

Дык ведай, што напраўду яно будзе гэтак...

І о

Хто ж забярэ ў Зевеса цэптар уладарства?

П р а м е т э й

Сам у сябе — праз неразумныя учынкі.

І о

А як? Скажы, калі няма ў тым небяспекі.

П р а м е т э й

Ён возьме шлюб, які яму зашкодзіць.

І о

З багіняй? Са смяротнаю? Скажы мне!

П р а м е т э й

З кім? Гэтага сказаць не маю права.

І о

Дык што, яго пазбавіць трона жонка?

П р а м е т э й

Народзіць сына, што мацней за бацьку...

І о

І ён таго прадухіліць не зможа?

П р а м е т э й

Не. Перш чым з кайданоў я выйду.

І о

Хто ж вызваліць цябе насуперак Зевесу?

П р а м е т э й

Адзін з тваіх нашчадкаў гэта быць павінен[19].

І о

Што? Вызваліць цябе адзін з маіх сыноў?

П р а м е т э й

У трэцім пакаленні пасля дзесяці.

І о

Не разумею я, што ты прадказваеш...

П р а м е т э й

Не трэба ведаць пра свой лёс табе...

І о

Таго, што абяцаў, не пазбаўляй мяне.

П р а м е т э й

З двух прадказанняў ты адно пачуеш.

І о

Але з якіх тых двух? Што выбіраць мне?

П р а м е т э й

Вось выбар твой: ці ўведаеш пра тое,
Які твой будзе лёс, ці — хто мяне ўратуе.

Х о р

Ёй лепей першую зрабі паслугу,
А мне — другую. Раскажы ёй зараз,
Што ў будучым яе чакае. Мы ж
Хацелі б ведаць, хто твой будзе збаўца.

П р а м е т э й

Калі вы хочаце — не буду я пярэчыць
І раскажу пра ўсё, што вы прасілі.
Найперш, Іо, я апішу твае блуканні,
А ты іх замацуй у сваёй памяці.
Раку між кантынентамі двума праплыўшы,

На Ўсход ты пойдзеш, шляхам промняў сонца,
Пераплывеш па хвалях мора, аж пакуль
Патрапіш на Гаргонавы палі Кісфены[20],
Дзе Форкія дачок жытло — трох векавух,
Падобных да лябёдак, з адным вокам,
З адным на ўсіх трох зубам. І ні сонца
Удзень, ні месяц уначы не асвятляе
Іх промнямі сваімі. А паблізу
Там тры крылатыя сястры жывуць —
Гаргоны змеякудрыя, што ненавідзяць
Усіх людзей. Калі смяротны іх убачыць,
Ён больш паветра не ўдыхне. І я хачу
Цябе пра гэта папярэдзіць! І яшчэ
Я пра адно відовішча скажу: пабеража́ся
Зевесавых ахоўнікаў бязмоўных — грыфаў,
Ды вершнікаў тых аднавокіх, арымаспаў,
Што поблізу вады жывуць, каля ракі Плутона[21],
Якая залаты пясок нясе з сабою.
Да іх не набліжайся... Потым прыйдзеш
У край далёкі, да народу чорнага,
Што каля сонечных крыніц жыве, там дзе
струменіць
Рака Эфіёп[22]. Берагоў яе трымайся,
Пакуль не ўбачыш вадаспад: як з гор Біблоса
Чысцюткую ваду свяшчэнны Ніл скідае.
І на зямлю трохкутную[23] ён прывядзе цябе —
Ў Егіпет, дзе табе, Іо, і будучым унукам
Наканавана слаўнае паселішча закласці...
Калі ж ты нешта да канца не зразумела,
Перапытайся, прасвятлі, як мае быць
Бо часу вольнага зашмат я маю тут.

Х о р

Калі дадаць ты можаш штосьці да таго,
Што расказаў ёй пра яе блуканні,
Дык гавары. А не — дык выканай
Тады і нашу просьбу — пэўна ж, не забыўся...

П р а м е т э й

Яна пачула ўсё пра шлях блуканняў свой,
Але праўдзівасць слоў маіх пацвердзіць трэба,
Таму, каб прадказанні мае спраўдзіць,
Я раскажу пра тое, што было дагэтуль з ёй.
Падзей было багата, і хачу я толькі
Спыніцца на апошняй частцы падарожжа.

Калі ў Малосскія палі прыйшла ты,
Да стромых гор Дадоны, дзе жыве аракул
Зевеса Феспратыйскага[24] і дзе дубы —
О дзіва! — гаварыць умеюць. Вось яны цябе
Віталі так, як будучую жонку Зеўса —
Ці ж самалюбства тым не ўсцешана тваё? —
Тады ты, гнаная шаленствам, паляцела
Па беразе да бухты Рэі, і адтуль
Назад цябе пагнала бура. Мусіш ведаць,
Што тую бухту Іанійскай назавуць —
Як памяць пра твае пакуты за смяротных!
Вось маеш доказ, што відно маім вачам
Намнога болей, чым вачам астатнім.
І пра далейшае і ёй, і вам скажу —
Працяг майго ранейшага аповяду...
Ёсць горад на краі Егіпецкай зямлі,
Каноб завецца ён, ляжыць пры вусці Ніла.
Там верне Зеўс табе ранейшы розум
Адным ласкавым дотыкам сваім.
Яму народзіш ты сыночка чорнага
Эпафа[25], ён будзе ўздоўж і ўпоперак
Зямлю ўрабляць, арошаную Нілам, тую,
І ў пятым пакаленні пяцьдзесят дзяўчат[26],
Ягоныя нашчадкі, вернуцца назад,
У Аргас, каб пазбегнуць шлюбаў
З стрыечнымі братамі; а яны, як каршуны
Што на галубак нападаюць, паімчацца
За імі ўслед, у шале нестрыманым.
Ды не дазволіць Зеўс тых шлюбаў згубных:
Пелазгава[27] зямля іх пахавае цэлы,
Калі жанчыны падпільнуюць іх уночы,
І кожная свайго зарэжа мужа,
Крывёй запэцкаўшы лязо мяча двайнога.
Хай ворагам маім Кіпрыда[28] так адпомсціць!
Але адна з дзяўчын[29] — палонніца кахання —
Забіць не здолее свайго каханка-мужа,
Займее славу баязліўкі — не забойцы.
І ад яе славуты род цароў пачнецца
У Аргасе... Ды падрабязнасці — расказваць доўга.
Галоўнае, што з таго роду выйдзе
Стралок-лучнік, які мяне ад болю
І ад пакут тых вызваліць навечна.

Мне гэта ўсё Феміда прадказала — маці
Тытанава старая. Як і што пры гэтым будзе —
Занадта доўга гаварыць і — без патрэбы.

Іо

Ах, гора, гора!
Ізноў востры боль мяне працінае
І мучаюць прыступы шалу,
І пякучым, як жалеза, джалам
Джаліць мяне авадзень!
Ад жаху стукае сэрца ў грудзях,
Вочы вылазяць з арбіт;
Вар'яцтва шалёная навальніца
Некуды гоніць мяне, язык мой нямее.
Патанае ў хвалях жахлівай хваробы
Маё збянтэжанае лапатанне...

Яна бяжыць прэч.

## СТАСІМ ТРЭЦІ

Хор

*Страфа*

Мудры быў, надта мудры той,
Хто меў думку глыбока ў сэрцы і першы
Абвясціў красамоўна, што шлюб павінны
Роўны з роўнаю браць —
Бедным, гаротным не трэба імкнуцца
Мець у сваяцтве багатых, пыхлівых.

*Антыстрафа*

Хай у жыцці ніколі
Вашае наканаванне, о Мойры, мяне
Зеўсу ў абдымкі не аддасць
І жонкай не зробіць іншага сына нябёс.
Жахліва бачыць, як лютуе Гера —
Топчучы, катуючы, гонячы злосна
Іо, дзяўчыну юную, на пакуты.

*Эпод*

Вядома, нармальныя шлюбы бываюць між роўнымі —
Каб толькі, о любоў, высокі бог
Не зірнуў на мяне з палкасцю няўмольнаю!
Змаганне з тым немагчымае —

З яго няма карысці;
І што ўсё ж з гэтага будзе?
І як жа мне цяпер
Ад улады Зеўса ўцячы?

## ЭКСАД

П р а м е т э й

Пыхлівы Зеўс, але навучыцца і ён
Мякчэйшым быць: жаніцьба, да якой
Цяпер рыхтуецца ён, прынясе канец
Яго ўладарству і ягонай моцы.
І гэтак здзейсніцца пракляцце Крона,
З якім той ад улады адышоў.
Не скажа, партунак дзе яго.
Мне толькі ён вядомы аднаму.
А так — няхай упарціцца Зевес
І ганарыцца безліччу грымот
Ды стрэл агністых, што з нябёсаў ён
Шпурляць умее. Не засцеражэ
Яго ад страты трона больш нішто.
Я ж бачу, як суперніка сабе
Непераможнага рыхтуе ён,
Які агнём зырчэйшым пекане,
Грымотаю гучнейшай загрыміць,
Трызубец Пасейдонаў паламае,
Які трымаў у жаху ўсю зямлю,
Ды кіне ў мора. Так спазнае Зеўс,
Якая розніца існуе паміж тым,
Кіруеш ці адно слугуеш ты.

Х о р

Ахвоту маеш прадказанні ты рабіць.

П р а м е т э й

Прадказваю, чаго жадаю і што будзе.

Х о р

Што, некалі ўладарства Зеўса скончыцца?

П р а м е т э й

Цяжэй пакутваць будзе за мяне ён.

Х о р

Ці словы гэткія казаць не страшна?

Праметэй

Чаго баяцца? Мой жа лёс — быць бессмяротным.

Хор

А раптам мучыць ён мацней пачне?

Праметэй

Няхай: я да ўсяго даўно падрыхтаваны.

Хор

Той мудры, хто шануе Адрастэю[30]...

Праметэй

Гні спіну і таму маліся, хто цяпер ва ўладзе.
А мне — што мне Зевес? Няхай ён робіць
Так, як захоча; хай сваю паказвае ўжо ўладу,
А засталося ж быць нядоўга ўладаром яму.
А-а, бачу там ягонага я пасланца,
Слугу тырана новага. Вядома ж, ён прынёс
З сабою штосьці новае зусім.

З'яўляецца Гермес.

Гермес

Я да цябе, падступнага, звяртаюся —
Да здрадніка і ворага багоў,
Што, ўкраўшы ў іх агонь свяшчэнны,
У дабрадзеі да смяротных хоча.
Табе наш бацька Зеўс дае загад
Пра шлюб той расказаць, які нібыта
Яго уладзе пагражаць павінен.
Адказвай проста, без загадак цьмяных,
І не змушай мяне прыходзіць яшчэ раз.
Не будзе Зеўс да ўпартага лагодны!

Праметэй

Вось гэткія напышлівыя словы
Багоў прыслужніка яскрава выдаюць.
Дык што вы, новыя валадары,
Мяркуеце, што непахіснаю цвярдыняй
Сябе вы атачылі? Толькі ж я хіба
Не бачыў, як прагналі з трона тых
Мінулых двух валадароў[31]? І трэці,
Як гэта вызначана Небам, з ганьбай
З Алімпа упадзе яшчэ хутчэй.
Ці ты падумаў, што я аж дрыжу

Прад новастворанай дынастыяй багоў?
Не, я нізвання не баюся! А цябе
Прашу вярнуцца тою самай, што прыйшоў,
Дарогай. І майго адказу не чакай!

Г е р м е с

Ты пацярпеў ужо ад дзёрзкасці сваёй;
Яшчэ праз гэта гора нажывеш сабе.

П р а м е т э й

Хай нажыву яшчэ сабе сто бед —
Не памяняю іх на вашую няволю!

Г е р м е с

Ці ж лепей быць нявольнікам скалы,
Чым паслухмяным вестуном Зевеса?

П р а м е т э й

За дзёрзкасць дзёрзкасцю я адплачу!

Г е р м е с

Здаецца, што сябе ты ўтульна пачуваеш...

П р а м е т э й

Утульна? Гэткай вось утульнасці жадаю
Я ворагам сваім, ды і табе, ў тым ліку.

Г е р м е с

Ты вінаваціш і мяне ў бядзе сваёй?

П р а м е т э й

Я проста ненавіджу ўсіх багоў — за тое,
Што ліхам за дабро мне адплацілі.

Г е р м е с

Здаецца, што ты звар'яцеў дазвання.

П р а м е т э й

Калі да ворагаў нянавісць ёсць вар'яцтва...

Г е р м е с

Цябе не вытрымаць было б, каб меў ты шчасце.

П р а м е т э й

На жаль!

Г е р м е с

Зеўс гэтых слоў на ведае...

Праметэй

Яшчэ не ведае, ды час яго навучыць.

Гермес

А ты — і сціпласці зусім не навучыўся.

Праметэй

З табою, памагатым ката, я не размаўляў бы,
Калі б яно было так.

Гермес

Ты сказаць не хочаш
Таго, чаго жадае бацька твой?

Праметэй

Што ж, гэтую паслугу я яму завінаваціў.

Гермес

З мяне, нібы з дзіцяці, здзекуешся ты.

Праметэй

А хіба ж не дзіця ты, не дурнейшы за дзіця —
Як думаеш, што я пра ўсё пачну расказваць?
Ні хітрасцю, ні катаваннямі не змусіць
Мяне Зевес пра таямніцу распавесці,
Пакуль ганебных тых не зніме ланцугоў!
Няхай імклівыя наводзіць бліскавіцы,
Няхай і завірухі насылае і няхай
Грымотамі зямныя нетры працінае —
Зеўс ад мяне даведацца не зможа
Пра тое, хто яго пазбавіць валадарства!

Гермес

Калі табе зусім не здрадзіў розум,
Зрабі выснову ўсё ж з цяперашніх пакут.

Праметэй

Вось гэтак можаш гаварыць ты хвалям —
Не думай, што, каб вырваць Зеўса ўсмешку,
Я ганьбавць схачу душу сваю
Дурной пакораю і па-жаночы
Пачну заломваць рукі перад тым,
Каго я ненавіджу. Ды хутчэй
Вазьму я, несмяротны, ды памру!

Гермес

Я шмат казаў, ды ўсё, відаць, дарэмна:
Душа, што скалянела, не растане

Ад просьбаў, быццам жарабец, які
Кусае цуглі і адчайна рвецца з лейцаў;
Ал[redacted] ж упартасць і зацятасць анічога
Н[redacted] вартыя — як мудрасці няма!
І ўсё ж падумай добра: калі ты
Не ўчуеш папярэджанняў маіх,
Якая навальніца бед, пакут страшнейшых
Цябе дасягне непазбежна. Зеўс
Ударыць бліскавіцаю з-за аблакоў
І на шмат частак разаб'е скалу,
Ў каменныя абдоймы цябе ўцісне
І, покуль зноў ты ўбачыш белы свет,
Ён знойдзе новых катаванняў шмат:
Арла — крылатага драпежніка
Свайго — пашле, каб ён ірваў
Кавалкі твайго цела; нібы госць
Няпрошаны, крывавай дзюбай
Тваю пячонку будзе працінаць...
І ўжо твае не скончацца пакуты,
Пакуль на тваё месца іншы бог
Не прыйдзе і не спусціцца
У змрок Аіда, у глыбокі Тартар.
Таму — падумай лепш яшчэ, бо тут —
Не пахвальба пустая: бацька Зеўс
Не хлусіў аніколі. Што сказаў,
Ён зробіць без сумневу. Дык ты ўзваж
Усё — й маіх не занядбай парад.

Х о р

Здаецца нам, Гермес гаворыць мудра
І ўсё да месца — каб не быў ты ўпарты
І да разумнага прыслухаўся;
Трымацца за памылкі — неразумна.

П р а м е т э й

У тым, што гэты мне прарок прарочыць,
Нічога новага няма, і хіба дзіўна,
Што мусіць вораг ды ад во́рага цярпець?
І я гатовы. Хай ён бліскавіцай
Усё запаліць навакол мяне; няхай
Яго грымоты страсянуць паветра
Ды ашалеюць дзікія вятры,
Ды навальніцы скалануць зямлю
Да самых найглыбейшых нетраў!
Няхай аж да нябеснай выгбы

Ды зор на ёй уздыме хвалі мора.
Няхай у Тартар змрочны Зеўс шпурне
Мяне сваёй непераможнай сілай —
Жыць буду я, нягледзячы на гэта!

Г е р м е с

Ці ж словы гэтыя пра розум сведчаць?
Ці ўсё-такі я трызненне тут чую?
Ці лёсу будзе йшчэ наканавана
Яго вар'яцтва гэтае спыніць?
Вы ж, спачувальніцы яго бядзе,
Адсюль ідзіце ўжо як найхутчэй,
Бо неўзабаве ўдар грымот жахлівы
Усім розумам і сэрцам вы адчуеце!

Х о р

Што-небудзь іншае ты нам парай —
Гэтыя ж словы тут не да месца;
Як можаш ты нас вучыць падступствам?
Тое стрываем мы, што і ён.
І здраду нас вучылі ненавідзець,
І з усіх заган, што маюцца
На белым свеце,
Горшай за гэтую быць не можа.

Г е р м е с

Ну, памятайце: я вас папярэджваў,
Калі вас навальніца, што ідзе ўжо,
Дасягне — вы тады не наракайце,
Што не чакалі Зеўсавага ўдару
І больш нікога ўжо не вінавацьце;
Вы ведалі пра гэта загадзя —
Не вінаваты дзённае святло
Ды час, што вы сябе заўзята
Заблытвалі ўвесь час у сетцы бедаў.

Гермес выходзіць. Чуюцца грымоты, грукатанне пад зямлёй.

П р а м е т э й

Ну вось, ужо і не пагроза тое —
Ужо закалацілася зямля,
І загуло грымот глухое рэха;
Агні зазіхацелі бліскавіц,
Пыл узнімаецца віхурамі да неба,
Вятры на бітву між сабой выходзяць,
І мора ўзносіць хвалі да нябёс

Так, відавочна, сілай хоча Зеўс
Сваёй магутнаю мяне спалохаць.
Глядзіце ўсе — о матухна святая,
О той, што залівае ўсіх і ўсё
Святлом сваім — глядзіце ўсе, глядзіце,
Як мушу я цяпер несправядліва
Цярпець такія страшныя пакуты!

Праметэй правальваецца пад зямлю разам з кавалкам скалы, да якой ён быў прыкуты.



## ЗАЎВАГІ

1) Праметэй — па-грэцку «празорлівы».

2) Тэфіда (Тэфія) — дачка Урана і Геі, сястра і жонка Акіяна, маці трох тысяч акіянід і ўсіх рэк.

3) Уранавы дзеці — пакаленне тытанаў і волатаў, да якога належыць і Крон.

4) Крон — адзін з самых старажытных багоў, сын Урана і Геі, які скінуў з трона і скалечыў свайго бацьку.

5) Феміда — багіня справядлівасці.

6) Акіян быў дзядзькам Праметэя, дачка Акіяна Гесіёна была Праметэевай жонкай.

7) Гаргона — жанчына-пачвара, якая ператварала ў камень усіх, хто глядзеў на яе.

8) Этна — вулкан на Сіцыліі, моцнае вывяржэнне якога адбылося ў 478 г., пры жыцці Эсхіла. Вулкан паказаны тут як магіла Тыфона-агнядыха, малодшага сына Геі і Тартара.

9) Міятыйскія воды — Керчанская пратока.

10) *Арыі люд...*— назва аднаго з персідскіх плямён.

11) Мойры — багіні чалавечага лёсу, дочкі Зеўса і Феміды.

12) Эрыніі — багіні помсты, якія жылі ў Аідзе.

13) Аргас (Аргус) — шматвокі велікан, сын Агенора, якому Гера даручыць пільнаваць Іо, ператвораную ў карову.

14) Інах — аргасскі герой, сын Акіяна і Тэфіды.

15) Цытрэя — адно з імён багіні кахання Афрадыты.

16) Лерна — возера ў Арталідзе.

17) *Керхнэйскія струмяні...*— крыніца ў Аргалідзе.

18) Тэрмадон — мяркуецца, што так называлася рака і адна з мясцін Каўказа.

19) *Адзін з тваіх нашчадкаў...*— маецца на ўвазе, што арла, які рве Праметэеву пячонку, заб'е Геракл, далёкі нашчадак Іо.

20) Кісфена — горы ў Малой Азіі.

21) Рака Плутона — залатаносная рака (ад Плутаса — бога багацця).

22) Эфіёп — мяркуецца, што гэта назва верхняга цячэння Ніла.

23) Трохкутная зямля — дэльта Ніла.

24) Феспротыя — частка Паўночнай Грэцыі.

25) Эпаф — літаральна значыць «народжаны ад дотыку».

26) *Пяцьдзесят дзяўчат...*— маюцца на ўвазе сёстры Данаіды.

27) Пелазг — міфічны цар Аргаса.

28) Кіпрыда — яшчэ адно імя Афрадыты.

29) *...адна з дзяўчын — палонніца кахання...*— Гіпермнестра, адна з Данаід, якая не забіла свайго каханага мужа Лінкея.

30) Адрастэя — багіня кары і помсты, якую звычайна атаясамлівалі з Немезідай.

31) *...прагналі з трона Мінулых двух валадароў...*— маюцца на ўвазе Уран і Крон, дзед і бацька Зеўса.